# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1525) ГОД XXX БЕЛАСТОК 4 ЖНІЎНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Над ракою Нарвай. Фота Міхася Шаховіча.

## КУПАЛЛЕ НА НАРВЕ

Купалле — даўняе земляробчае свята, прысвечанае найбольшаму росквіту жыватворчых сіл прыроды. Пачаткі яго святкавання ў глыбіні стагоддзяў, у часах язычаства. Звычаі і абрады з часам змяняліся, а ў многіх краінах і заніклі. Але на славянскіх землях яны захаваліся па сённяшні дзень. Купальскае свята з 6 на 7 ліпеня (з 23 на 24 чэрвеня па ст.ст.) трывала ўпісалася ў гісторыю беларускай народнай культуры. У гэтую ноч на ўзлесках, на выганах, ля вады, каля жыта, там дзе жылі беларусы, гарэлі ўрачыстыя вогнішчы, як сімвал сонца на зямлі. Вакол яго збіраліся людзі, спявалі песні, расказвалі легенды, вадзілі карагоды, скакалі праз агонь, варажылі, пускалі на ваду вянкі з палявых кветак, шукалі чарадзейную папараць-кветку (сінонім шчасця). У гэтую цудоўную ноч прырода набывала незвычайных, магічных асаблівасцей. Адчувалася радасць чалавечага яднання прыродай, песняй, дружбай.

Так было і ў гэтым годзе на беразе ракі Нарвы непадалёк шашы з Беластока ў Бельск. На ўзлонне роднай прыроды прыехала сюды група беларусаў з гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку і жыхароў вёскі Рыбалы. Адбылася цікавая і прыемная сустрэча ля вогнішча, спроба адрадзіць старадаўняе беларускае свята на нашай зямлі. Нягледзячы на арганізацыйныя цяжкасці і капрызы сёлетняга надвор'я, гэтая сустрэча была зоркай надзеі на культурнай ніве нашага асяроддзя.

З начной цемрадзі пранясліся словы песняра:

А хто там ідзе, а хто там ідзе,
У агромністай такой грамадзе?

— Беларусы! — упэўнена адказалі прысутныя. Разгарэлася вогнішча і разам з яго полымем высока ўзляцела „Купалінка". Так пачалася мастацкая частка сустрэчы. У ёй гаварылася пра традыцыі купальскага свята, пра гадавіну з дня нараджэння Янкі Купалы. Расспяваныя беластоцкія „Каласкі" пад акампаніямент Сцяпана Копы штораз захаплялі сваімі мілагучнымі песнямі. Памагалі ім таксама сімпатычныя „Хлопцы-рыбалоўцы". А песню „Люблю наш край" спявалі ўсе прысутныя. Па роднай зямлі нясліся таксама і вечна жывыя вершы Янкі Купалы: „Ах ты, лета, гарачае, бурнае!". „Магутнае слова, ты роднае слова!", „Пакіньма на пуста на лёс свой наракаць" ...Мілы тон свойскай мовы напаўняў сэрцы най-

(Працяг на стар. 7)

## СТОРАЖЫ ПРАВА

Ніхто з нас не хоча папасціся ў рукі пракурору. Я, аднак, заахвочваю да сяброўства з пракурорамі і гэтае заахвочванне засноўваю на ўражанні, якое я вынес з прэс-канферэнцыі ў ваяводскай пракуратуры ў Беластоку. Гаворка там ішла перш за ўсё аб ролі пракурора як стаража права, права, устаноўленага ў нашай краіне Сеймам ПНР.

Кінафільмы, тэлебачанне, усялякая літаратура і асабісты жыццёвы вопыт замацавалі ў кожнага з нас уяўленне аб пракуроры, што гэта чалавек у чорнай тозе з чырвонай абшыўкай, які сядзіць за вялікім сталом з правага боку суддзі і заўсёды патрабуе самага высокага пакарання для „няшчаснага" абвінавачанага. Здавалася б, што лепш здалёк абыходзіць такога чалавека.

А мне ў жыцці пашчасцілілася сапраўды пасябраваць з некаторымі асобамі, якія выконваюць абавязкі пракурораў. І гонарам сваім клянуся, што гэта самыя звычайныя людзі, якія ўмеюць пасмяяцца і пажартаваць, любяць добрую кампанію, а ў зносінах са злачынцамі перш за ўсё шукаюць прычын, якія накіравалі чалавека на злачынны шлях.

Першым абавязкам кожнага пракурора з'яўляецца абавязак быць сторажам права, сторажам законнасці нашай народнай дзяржавы. Гэтакія правамоцтвы дала пракуратуры Сеймавая пастанова ад 20 ліпеня 1950 года. Згодна з гэтай пастановай пракуратура з'яўляецца самастойным дзяржаўным органам, незалежным у ніякім выпадку ад дзяржаўнай адміністрацыі і толькі падпарадкаваным выключна Радзе Дзяржавы, якая ўрачыста ўручае намінацыйныя акты кожнаму пракурору.

20 чэрвеня г.г. Сейм прыняў новую пастанову аб пракуратуры. Пачынае яна абавязваць ад 1 верасня 1985 г. Гэтая пастанова пашырае правамоцтвы пракуратуры на сферу дзейнасці

(Працяг на стар. 5)

## АДГАЛОСКІ

### АБ „НІВЕ" — ЯКАЯ ПАВІННА БЫЦЬ?

Дзень выхаду „Нівы", беларускага тыднёвіка ў Польшчы быў днём вялікага свята для ўсіх, каму дарагое друкаванае роднае слова. Нічога дзіўнага, што ў многіх тыднёвік „Ніва" з'яўляецца самай папулярнай і самай каштоўнай газетай.

Тым, хто цікавіцца культурным жыццём беларусаў у Польшчы, „Ніва" прыносіла інфармацыі з хронікі Хмялеўскага. Шкада, што іх ад нейкага часу няма. Для тых, хто цікавіцца новымі выданнямі беларускіх кніг, былі весткі М. Гайдука „Беларускія кніжкі". Дзякуючы гэтым весткам аўтар гэтых радкоў стварыў багатую беларускую бібліятэку.

Вось гэта дадатнія рысы нашай газеты, а іх ёсць значна больш.

Вядома, густы чытачоў розныя, аднаму падабаецца тое, другому іншае, і няма што сілавацца дагадзіць усім, гэтага ніколі не будзе. Усё ж кожная рэдакцыя стараецца так працаваць, каб кожны чытач мог сказаць: вось гэта мая самая лепшая газета, а я за такую лічу нашу „Ніву". Бываюць аднак і закіды ў адрас „Нівы".

На мой погляд, „Ніва" павінна больш увагі звяртаць на прапановы чытачоў, не заставацца глухімі на іхнія словы. І другая справа, „Ніва" з'яўляецца органам БГКТ, павінна яднаць усіх беларусаў, пражываючых у Польшчы, незалежна ад іх веравызнання. Да гэтага часу можна заўважыць, што беларусы — гэта праваслаўныя, а ў сапраўднасці так не ёсць. Бадай, беларусам-католікам крыху замала прысвячалася ўвагі.

І яшчэ адно — паяўлялася замнога абразлівых артыкулаў пад адрасам беларусаў за іх нібы абыякавасць да беларускасці. Такія артыкулы прыносілі больш крыўды, чым карысці. Толькі праца на культурнай ніве дазволіць ліквідаваць гэтую некарысную сітуацыю ў беларускім асяроддзі.

Не раздзяляю думкі некаторых чытачоў, што ад голых дзяўчат у газеце падняў бы папулярнасць газеты. Беларусы — людзі скромныя, не маглі б пагадзіцца з такой з'явай, так як мне цяжка пагадзіцца з адным чытачом, які ў вершы называе Алеся Барскага „богам", гэта ўжо страшэнна смешна.

**Францішак Берніковіч**

*

Мне 51 год, я чытаю „Ніву" ад 1 нумара, а яе карэспандэнтам

(Працяг на стар. 4)

# НА МЯЖЫ

## АБ ПРАМІНАННІ VIII

Чалавек прагне жыць. Зразумела, што здараюцца выпадкі, калі людзі, даведзеныя да адчаю цяжкімі хваробамі, матэрыяльнымі нястачамі або маральнымі пакутамі, прагнуць смерці. Бывае, што канчаюць жыццё самагубствам. Аднак гэта выключэнні. Цікава, што самагубныя смерці здараюцца часцей сярод маладых, чым сярод старых. Нярэдка прычынай такога трагічнага кроку з'яўляецца нешчаслівае каханне або алкагольная бескантрольнасць. На шчасце, выпадкі самагубных смерцяў — з'явы даволі рэдкія. Аб чым сведчыць самагубства? Аб тым, што чалавек, які рашаецца на гэты крок, як бы прыходзіць да вываду, што натуральны, здавалася б і так стрымгаловы, бег праміпання занадта павольны, што натуральная смерць завельмі адлеглая і што трэба яе прыспешыць. Зразумела, што маем тут дачыненне з формай маральнага злачынства, бо незалежна ад таго, ці паглядзім на жыццё з дэістычнага ці з атэістычнага пункту гледжання, дык мусім згадзіцца, што з'яўляецца яно найвялікшым з дараў, якія чалавек атрымоўвае ад вышэйшай ці ад натуральнай сілы. Ну, але з другога боку, жыццё з'яўляецца „ўласнасцю" дадзенага чалавека і можа ён распараджацца гэтай „уласнасцю" згодна са сваімі перакананнямі. З горшай бядой маем дачыненне тады, калі, не пытаючы пра волю людзей, заправілы і генералы кіруюць сотні тысяч або і мільёны на ўбой. І тут маем дачыненне са страшэнным запярэчаннем у адносінах да нармальнага праміпання, якое эліміпуе людзей з жыцця натуральным шляхам. Не раз мне давялося сустрэцца з людзьмі, якія перспектыву смерці ўспрымаюць істэрычна, нервозна, з ненатуральным супраціўам. Зразумела, што так адносячыся да смерці, не толькі яе не аддаляем, але набліжаем да сябе.

Мне асабіста вельмі падабаецца адваротная катэгорыя людзей, тых, якія адносяцца да перспектывы смерці са спакоем і годнасцю. Больш таго, яны чакаюць яе як нечага амаль прыязнага. Цікава, што такіх людзей асабліва многа сярод пажылых жыхароў (асабліва жанчын), беларусаў з Беласточчыны. З многімі з іх даводзілася мне доўга гутарыць у часе фальклорных даследаванняў. З якім жа прыгожым спакоем успрымаюць яны набліжэнне смерці! Цікава, што сярод гэтай катэгорыі людзей многа такіх, якія вераць у пазагробнае жыццё, але нямала і такіх, якія ў пазагробнае жыццё не вераць. І вось гэтыя людзі выбіраюць сабе месца на могілках, шыюць вопратку, рыхтуюць бялізну, купляюць боты — словам усё тое, што неабходнае ў труну. Тыповая ў мінулым беларуская зараднасць, працавітасць, адказнасць, саліднасць і тут, у абліччы смерці, праяўляецца з поўнай, на маю думку, прыгожай сілай. Некалькі гадоў таму назад адзін з пажылых беларусаў з Сакольшчыны, не толькі падрыхтаваў усё, што неабходнае нябожчыку, але нават уласнаручна зрабіў салідную труну. У гэтым таксама бачу харошую сялянскую зараднасць. У такім падыходзе да праміпання і да смерці праяўляецца, з аднаго боку, імкненне да таго, каб быць пахаваным „па-чалавечы", а з другога боку, каб сваім найбліжэйшым звесці да мінімума ўсякія клопаты і праблемы, звязаныя з пахаваннем.

(Працяг на стар. 11)

# ПЯЦЬ ДЗЁН У ГАСЦІНЕ

Дарога з Астраўца ў Мінск — гэта падарожжа ў мінулае беларускага народа, толькі не ў храналагічнай паслядоўнасці. Вось мільгануў дарожны ўказальнік з надпісам „Жупраны" — месца спачынку паўстанца 1863 г., параненага падчас сутычкі з царскімі войскамі ў Аўгустоўскай пушчы, пачынальніка новай беларускай літаратуры і вялікага змагара за мову і долю працоўнага беларуса Францішка Багушэвіча. У Ашмянах краязнаўчы музей носіць яго імя, а ў спецыяльнай „багушэвічавай" зале захоўваюцца яго асабістыя рэчы, першавыданні твораў. А ў дваццаці кіламетрах на поўдзень ад Ашмянаў, воддаль шашы, у старадрэвінах, у радавым гняздзе князёў Гальшанскіх дрэмлюць рэшткі замка з XVII стагоддзя. Як быццам помнік па вялікіх духам князях Гальшанскіх — выдатных дзяржаўных дзеячах Вялікага княства Літоўскага ў XIV—XV стагоддзях і нястомных змагарах за волю зямлі беларускай, за што іх тапілі ў Дзвіне пад Віцебскам і адсякалі галовы на Лукішскім пляцы ў Вільні. Тут нарадзілася і ўзгадавалася княжна Софія — чацвёртая жонка Ягайлы, каралева польская, якая дала пачатак вялікаму роду каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх — Ягелонаў. Цяжка не паразважаць пра тую выдатную эпоху — часы Грунвальдскай бітвы і бясконцых воен на ўсходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага, Мікалая Каперніка і Францішка Скарыны, калі на беларускай мове размаўлялі каралі і князі ў Кракаве і Вільні, складаліся дзяржаўныя акты і чужаземныя паслы падавалі дыпламатычныя граматы. А тут ужо чытаем таблічку „Крэва" і ў якіх двух-трох кіламетрах налева ад шашы, сярод прысаддзя, на нагорку, віднеюць руіны замка, дзе роўна 600 год таму назад, 14 жніўня 1385 года, вялікі князь літоўскі Ягайла і кракаўскія магнаты прывесілі васковыя пячаці да пергамента з пагадненнем пра аб'яднанне Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага — цяжкі пачатак вялікага набліжэння народаў-суседзяў: беларускага, польскага, украінскага, літоўскага, пачатак вялікіх перамог і страшэнных паражэнняў. Яшчэ колькі часу — і ўжо зусім над Мінскам дарожныя знакі паказваюць кірунак на Заслаўе — гістарычны Ізяслаўль, месца спачынку велічнай Рагнеды і пачатак мужнага жыццёвага шляху яе сына Ізяслава Уладзіміравіча, пачынальніка роду геройскіх князёў полацкіх — заснавальнікаў беларускай дзяржаўнасці.

У сталіцу Беларусі не ўязджаем адразу, бо хочам наведаць помнік падзеям нашай эпохі — мемарыяльны комплекс Хатынь, помнік зруйнаваным фашысцкімі захопнікамі на Беларусі ў 1941-1944 гадах 209 гарадам і мястэчкам, 9200 сёлам і вёскам, загубленым імі 2 мільёнам 230 тысячам беларусаў. Гэты своеасаблівы помнік устаў на месцы адной з 186 беларускіх вёсак, якія гітлераўцы спалілі разам з насельніцтвам. На Вянку памяці з белага мармуру, пакладзеным на магіле з астанкамі жыхароў Хатыні, накрэслены словы іх звароту да жывых: „Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё, і Радзіму нашу, і вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць вы мір і спакой на Зямлі. Каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў жыццё не ўмірала!"

Уліваемся ў бясконцы паток паломнікаў. Анямелыя ад слоў, выразаных у мармуры і граніце, аглохлыя ад клічаў-лямантаў каміноў-званоў. Ад часу адкрыцця мемарыяла ў 1969 г. яго наведала больш за 20 мільёнаў чалавек. Хатынь трэба наведаць кожнаму. Кожны павінен прайсці вогненнай Сцежкай яе былой вуліцы, задумацца над гэтай Галгофай пакут Беларусі і пакланіцца яе вечна жывому Распяццю. Так, сапраўды: „Кожны, хто збіраецца спазнаць характар сучаснага беларуса, разгадаць вытокі яго трывог і клопатаў, павінен бачыць Хатынь", — як піша беларускі паэт Генадзь Бураўкін.

У беларускую сталіцу ўязджаем падчас палудзеннага перапынку, калі пульс жыцця ў горадзе выразна запавольваецца, каб праз дзве гадзіны зноў вярнуцца да свайго моцнага працоўнага рытму. Гэтым спрабую сабе тлумачыць выразна меншы рух людзей і транспарту на цэнтральнай мінскай артэрыі — праспекце Леніна, чым гэта было гадоў чатыры-пяць таму назад. Але і праз некалькі гадзін, нават у часе пік, гэты стан не змяняецца. У чым справа? Ах, дык гэта ж метро! Так, першая чарга мінскага метро, якая пралягла ад чыгуначнага вакзала аж за плошчу Якуба Коласа — уздоўж самай рухлівай, самай перагружанай гарадской трасы, на працягу некалькіх гадзін перавезла тыя дзесяткі тысяч людзей, якія раней запаўнялі аўтобусы, тралейбусы, таксі, густой плынню запаўнялі абодва тратуары. Цяпер гэты людскі паток сплывае ў падзямеллі метрапалітэнавых станцый. На праспекце Леніна, такім чынам, папрастарнела. Хутка, вельмі хутка звыш паўтарамільённы Мінск пераўтвараецца ў са-

(Працяг на стар. 6)

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН?

## РЭВАНШЫСЦКІ ПЛАЧ

„Дэр Шлезіер" („Сілезец") — рупар заходнегерманскага „Зямляцтва немцаў з Сілезіі" нядаўна выказаў думку, што праблему вяртання „ўсходніх зямель" былога трэцяга рэйха можа вырашыць толькі... бундэсвер. Іншымі словамі, з газетнай паласы адкрыта прагучала падбухторванне рэваншыстаў вярнуць сілай тое, што ім не належала.

Грамадскасць шэрагу краін спрабуе знайсці зараз адказы на хвалюючыя пытанні: наколькі сур'ёзныя палітычныя амбіцыі зямляцтваў? І ці толькі настальгія гучыць у прамовах іх лідэраў?

Звернемся да рэчаіснасці.

Для Герберта Чая, дэпутата бундэстага і прэзідэнта „Саюза выгнаных" (галоўнай арганізацыі ўсіх зямляцтваў), вобласці „па той бок Одэра і Нэйсе", што размешчаны на тэрыторыі Польшчы і СССР, і сёння ўсё яшчэ „германскія ўсходнія правінцыі". Герберт Хупка, лідэр „Зямляцтва немцаў" з Сілезіі", на рэваншысцкіх сходках, у публічных выступленнях ідзе іншы раз яшчэ далей, чым яго аднадумец. Сілезскі лідэр не просіць, а патрабуе. І патрабуе ён заўсёды аднаго і таго ж — вяртання „радзімы", скуголіць на ўвесь голас: „Сілезія была і застанецца нашай!" Нават сціплая фрау Вэбэр, рэферэнт сілезскага зямляцтва, і тая, здаецца, ужо не ўстане вымавіць без слёз у голасе слова „Сілезія". У яе прамовах адны ўзнёслыя паняцці — „айчына", „зямля радзімы", „усход Германіі, без якога „не можа быць айчыны". Карацей, рэваншысты з зямляцтваў працягваюць усімі спосабамі ўкараняць у свядомасць насельніцтва палітычна небяспечны стэрэатып: без „усходніх зямель" ФРГ — непаўнацэнная дзяржава.

Узнікае яшчэ адно немалаважнае пытанне: колькі ж сёння іх, ваяўнічых „сілезцаў"? Бацькі зямляцтва не любяць распаўсюджвацца на гэтую тэму. Колькасць членаў саюза, яго структура не падлягаюць апавяшчанню. Мяркуюць, што „Зямляцтва немцаў з Сілезіі" аб'ядноўвае прыкладна 300 тысяч членаў. Дакладна вядома: на сходку „верхнесілезскіх немцаў" у Эсане ў 1984 годзе сабралася 100 тысяч чалавек. А годам раней у Гановер для ўдзелу ў рэваншысцкай сустрэчы прыбыло звыш 180 тысяч „сілезцаў".

Час ад часу ў прамовах рэваншысцкіх лідэраў праскоквае прызнанне. Так, Хупка публічна скардзіўся на тое, што з агульнага ліку членаў яго зямляцтва „штогод памірае два працэнты". Аднак гэта натуральнае змяншэнне, падкрэслівае гамбургскі штотыднёвік „Шпігель", не наносіць страты арганізацыі. Аказалася, членам зямляцтва можна стаць не толькі „па спадчыне", калі дзеці і ўнукі ўраджэнцаў Сілезіі аўтаматычна заносяцца ў спісы саюза з правам на ўсе фінансавыя льготы (скажам, у пытаннях жыллёвага будаўніцтва). Да землякоў сілезскіх немцаў цяпер па жаданню прыпісваецца кожны, хто салідарны „са справай" выхадцаў з Сілезіі.

І другі важны фактар: каб рады зямляцтва не радзелі, створаны прапагандысцкі апарат з мэтай падтрымання рэваншысцкага духу ў масах. Рэгулярна выходзіць ужо ўпамянутая газета „Дэр Шлезіер". Выхаваннем падрастаючай змены займаецца арганізацыя „Моладзь Сілезіі". Ідэалагічную апрацоўку вядзе фонд „Культура Сілезіі", які выступае ў ролі ахоўніка традыцыі. Сустрэчы членаў зямляцтва праходзяць арганізавана і ў святочнай атмасферы. Удзельнікі выконваюць народныя танцы ў нацыянальных касцюмах і весяляцца пад аркестравую музыку... на грошы заходнегерманскіх падаткаплацельшчыкаў.

Л. Б.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 315


## НОЧ НА ПАШЫ

Разам ноч на пашы,
Побач лесу луг,
На нябеснай чашы
Поўна светлых смуг.

Месяц скрыўся ціха
За парт'ерай з хмар,
Часам выйдзе крыху,
Блісне, як ліхтар,

І асвеціць дрэвы,
Сонныя лісты,
Пры лузе пасевы
З ячменем густым.

Быццам на балконе,
У дупле саву,
Спутаныя коні
І луг, як канву.

І дзесь пад кустамі
Шэрых пастухоў:
Спяць яны, як камень,
І не бачаць сноў.

Змучаныя працай
У будзённы дзень —
Куст ім стаў палацам,
А раскошай — лень.

Ды вось зноў, як мора,
Ночы чарната
Заліла прастору
З кожнага кута.

І не відна стала
Ні кустоў, ні дрэў,
Нібы ўсё папала
У пячоры зеў.

Толькі дзесь у лесе
Вогнішча блішчыць,
Чуць там гукі песень,
Смех і піск дзьзючын.

Бавяцца там, відна,
Шчыра, без маны.
А нам і не крыўдна,
Хоць мы тут адны.

Чую у абдымках,
Як дрыжыць твой бюст,
І бесперапынку
Блізкасць свежых вусн.

Запалалі скроні,
Чую, што жыву...
А дзесь самі коні
Скубаюць траву.

**Д. Шатыловіч**

## Двухмоўнасць

Падзелены за намі Цешын,
Ужо мы ў Чэхіі чароўнай,
І вока наша вельмі цешыць
Тут чэшска-польская
двухмоўнасць.

Уздоўж аўтобуснае трасы
Шыльды двухмоўныя на
крамах,
Назвы заводаў час ад часу
І вуліц гарадскіх таксама.

Вядома ўсім, што ў наваколлі
Тут пражывае шмат палякаў,
Што мова польская ніколі
Не вораг чэхам і славакам.

Пытанне родзіцца з дакорам,
Якое штораз больш трывожыць:
Ці калі-небудзь мае Мора
Будзе не толькі вёскай Можа?

**Віктар Швед**

* * *

ён замкнуў за сабой змучаныя дзверы
за празрыстымі дзвярыма пакінута імгла з мэты і надзеі і смерці чакання
і белы студзенькі снег
і піраміды зусім не высокія для цёплых катоў
за празрыстымі дзвярыма чырвоная лодка з трыццацігадовымі снамі аб жоўтай птушцы
і старыя брукаваныя вуліцы і ясныя музеі заўсёды чыстыя
за празрыстымі дзвярыма схаваныя партрэты з нецярплівасцю публікі
і вусны ўсіх ад слоў усіх
за празрыстымі дзвярыма некалькі спраў не да вырашэння тонкіх як сярэбраны волас
і час так выразна акрэслены як граніца паміж маскай і маскай
за празрыстымі дзвярыма —
пара моцна перакрунуць ключ

**Н. Артымовіч**

### З КАЗКІ АНДЭРСЕНА

баішся вясны
мой Кай
званочкі саней Зімы
цябе так радуюць
імкненне замыкае вусны
іголак тысяча
бяжыць праз горла
ў сэрца

Кай —
не буду цябе трывожыць
не пайду за табою
на полюс
дзе замкі з ільду
і свеціць паўночнае ззянне

не пайду
не пабягу за табою

можа...
басанож...
а кроў пабяжыць
за мною
пурпуровымі ружамі
нецярплівых слядоў
Кай маіх да цябе

але о Кай маўчу
а марозныя кветкі
рысуюць мне вочы далоні

і толькі кроў расцвітае
пад белым цесным бінтом

**Міра Лукша**



А. Карпы. „Скакалка". Бронза.
Фота М. Гайдука.

* * *

Я
часцінка народа
без граніцы
абвеянага імглой
я
часцінка народа
праставатага і славутага
ціхага і магутнага
беднага і багатага
я
часцінка народа
з васільком на мяжы
я
часцінка народа...
будзем
радасныя
калі ўзыйдзе сонца
будзем
плакаць
слязьмі шчасця
будзем
акунацца
ў рэках мёду
забудзем страх
узляцім уверх
будзем
царстваваць
і зноў
звалімся
на грунт

**Лніна Шостак**

## РЭМІНІСЦЭНЦЫІ

Табе пад пяцьдзесят. Ты дабіўся для сябе невытлумачальна больш, чымсьці магло прысніцца табе, вырастаючаму на падпанка ў гады свае далёкія, калі для ўсіх тады пачынаўся гэты новы свет. І вось завяршаецца наша стагоддзе, пра якое некалі запытаюць: а чаму яно было такое — і ваеннае і дабрабытнае?

...На Багача слівы пасмуглелі. На іх папырскаў быў дожджык і яны выглядалі незвычайна сакаўнымі. І ад таго яшчэ, можа быць, што дзень жа святочны і пры гэтым ціхі ўполудзень ды барвовы на зыходзе; парумяненая лістота, пахацяць выспелыя агароды.

Ад самюткага рання суседка спраўляла хрэсьбіны. На траве каля ганка яе, па-прыгараднаму вымаджанага дома паразлягаліся напоеныя мужчыны (храплі — у белых кашулях і ў чорных касцюмах, ад якіх яны трохі, як пінгвіны якія). З расчыненых вокан, што на паверсе з-за далікацтва фіранак у іх далятала сварня ў застоллі, звяглівая і нясціхная (так, калі застануцца за чаркамі адны бабы). Таму вельмі дарэчы было пайсці адсюль у малінавы закутак і прысесці там сабе на камяні, выгратым сонцам. У настроі, які не параўнаць з адпачынкам ратая або з існаваннем толькі, такім беспачуццёвым. Відаць поле, як прасціраецца яно ад запушчанага парку, маянтковага. Яго прыгажосць бачыш ты ў раптоўным цудзе песні ці ў малітве верша, — панскімі вачыма культуры, памятай. Не-е трасучы гной, і не за плугам...

Засланяючы нанач спальны пакой, угледзіш месяц. Заўважыўшы яго фазу, табе падумаецца, што час прамінае ў нейкім чаканні, аднак жа, бяжыць ён, быццам па-зайчынаму вяртаючыся ў тое ж месца і ўсё роўна што выгледжваючы вочы за кімсьці. Ці дзіва, чаму тваё жыццё не зусім каб патрэбнае, здасца яно табе да крыўднасці выпадковым, хоць і не хапае дзеля яго дня ды з вечарам...

У летняе ўставанне, у той перадспякотны халадок бярэ ахвота папрацаваць — з радасным жаданнем быць прысутным у жывым, зялёным і светлым. У балаціне, што пад Лісіным Грудам, крычыць тамашняя птушка. Ты ўспомніш аднакласніка з паўзабытай вялікагарадской школы; ён, зарабіўшы мільёны, памёр ад рака.

Цябе гняце прымус закончыць сваё незакончанае, бо яно далося, хаця і ў звычнай табе хамутнай натузе, праз плойму гадоў шэра-шэрых і ты баішся, каб не апусціць залішне рук. Гэткі

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)

## Адгалоскі

з'яўляюся ад 1964 года. За 21 год майго супрацоўніцтва з „Нівай" яна вельмі многа змянілася на лепшае. Таксама змяніліся яе карэспандэнты — на лепшых. Шкада толькі, што мала ёсць маладых карэспандэнтаў — яны павінны выказаць свае погляды на старонках „Нівы", але цяпер прывыклі толькі крытыкаваць, а рабіць няма каму.

Мяне знерваваў ліст Міколы Андрэевіча з Беластока. Чорт ведае, чаго ён дамагаецца ад „Нівы": голых бабаў! А сам не хоча супрацоўнічаць, напісаць, што бачыць, дзе добрае, дзе дрэннае.

Журналісты ды і карэспандэнты, усе стараемся рабіць, каб „Ніва" была прыгажэйшая. І яна прыгажэе з году ў год — гэта заўважыць кожны яе пастаянны чытач.

Калі ж у „Ніве" паявяцца голыя дзяўчаты — гэта будзе дрэнна. „Ніву" чытае школьная моладзь, па ёй адбываюцца ўрокі беларускай мовы ў школах. Што датычыць сексу, то хачу сказаць, што ў школах ёсць асобны прадмет — навука аб чалавеку.

Я яшчэ дзякую Авакуму Ваўрэшуку з Бельска, што ён добра разбіраецца, якой была, ёсць і павінна быць „Ніва".

**М. Лук'янюк**

*

**Штогод лепшай! Яна з'яўляецца адзінай крыніцай ведаў пра беларусаў і для беларусаў у Польшчы, і таму ў ёй павінна быць наша карыснае для ўсіх: для старых і для малых, для гаражан і вясковых, для тых, хто шукае адказу на розныя сур'ёзныя пытанні, і для тых, хто хоча прыемна правесці час з друкаваным словам.**

**Вядома, нялёгка ўсім дагадзіць, але калі харашэнька пастарацца, на поспех можна разлічваць. Як усё памясціць у адным невялікім па аб'ёму нумары? А ці трэба ўсё адразу ўпіхаць у адзін нумар? Можна ж, напрыклад, у першую нядзелю месяца даць, скажам, апрацоўку літаратурных твораў, у другую — навуковыя публікацыі, у трэцюю — атракцыёны для моладзі і г.д. Нядрэнна было б хаця раз на нейкі час прылажыць каляровую вокладку або дадатак.**

Адкуль узяць матэрыялы, якія ўсім падабаліся б? Рэдакцыя мае вопыт і над гэтым пытаннем галаву ламаць не будзе. Зрэшты, у сягоняшнім свеце выходзяць тысячы газет і часопісаў, якія закранаюць амаль усе хвалюючыя нас пытанні. З тых, да якіх мы не маем доступу, „Ніва" можа перадрукоўваць патрэбныя публікацыі — так, як гэта робяць іншыя часопісы. Аднак узровень газеты заўсёды будзе залежны перш за ўсё ад узроўню, умеласці рэдакцыйнага калектыву і здольнасці карэспандэнтаў. А карэспандэнтаў „Ніва" мець павінна ва ўсіх асяроддзях — і не толькі ў кожным кутку нашай краіны. Вось калі маладыя пачнуць пісаць пра моладзь, мастакі пра культуру, паслы пра дасягнен-

(Працяг на стар. 7)



Фота Юркі Трачука.

## РЭМІНІСЦЭНЦЫІ

(Працяг са стар. 3)

спех — твая змора і дакучнасць. Уласцівасць безвыходнага.

У замглёнасці ўзлесся, у бок Пачапка пасецца дзікі звер. Відацьме алень. Чаму ён якраз на відавоку? Гэта ж так небяспечна для яго, апынуцца ў полі зроку чалавека!..

Эх, аўтамашынай паімчацца б табе па шашы ў майскім дрэўі! Панаднейшы смак ад таго, калі ты далей, у глыбі мураванай Польшчы, або ў па-заходняму акуратным замежжы. У бацькоўскім жа старонні дагніваюць пакінутыя вёскі, якімі, а каб не, зацікавяцца археолагі зацюканасці ды бядоты. Куды прападае людская праца? — палі зарастаюць хмызам, украпівелыя сядзібы нагадваюць сабою колішнія могілкі з руінаю капліцы, а ўнукам нашым манерным і не ў здогад нават тое, што ёсць жа і ў іх дзяды ды прадзеды... Народ мой хворы бяспамяццю таксама.

Яблык падае блізка ад яблыні. Гэта так, як лёс маці паўтараецца ў дачцэ, праўда, па-свойму... Хвалімся, галытва ўчарашняя, вялізным кавалкам хлеба нарэшце і катэджамі з мансардамі, каб папанстваваць, не цямячы чамусьці, што знакі багацця сталі не тыя і што ўсё гэтак жа міражныя яны для нас. Мінулае нацыі, бы абсалютная ісціна або прыцягненне зямное, што моцна трымае нас, — помсліва ці як, не дае нам выпрастацца, пазбыцца анамаліі росту.

У Крынскай пушчы ўпаткацьмеш паляны з вывараценямі і лугі, ад хараства якіх затрымціць табе ўваччу. Адзін лес старасць упрыгожвае, і ён векавечны. Будзе мець рацыю той, хто прыраўняе да яго культуру (без яе свет сам не ведаў бы пра сябе, пра тое, што ён быў і ёсць!). Сядзеш, каб ногі табе адышлі, збоч ад сенакоснай траскоты касілак і на строме рэчкі ў лозах, над тою яе затокаю, у якой вудзяць маладых шчупакоў. Вада бруіцца ў ёй у водарасцях, а цябе пранізвае заедлівае: ну чаму гэта мы, чаму забедныя і забедныя?! Дападаем да сваіх шанцаў, а яны, аказваецца, высмактаныя... Ачышчаючы з галчыных гнёздаў комін і апухі, ты дзівіўся, што знаходзіў у іх засушаны трупок пісклянняці, як заўсёды адно заморанае.

Еўропа нам даўно за гарамі. Нічога не скажаш, не мужыку ж палацы ў галаве (прынята гаварыць у высокім тоне). А па шчырасці, дык куды працей усенька ў нас адбываецца — а будзь ты сабе кім хочаш, абы грашавітым! Нішто ёсць усё золата і блакіт дня, тамы кнігаў ды старцаў развагі, сама існасць існасці, — хлісні долі нашай над нашымі, мазаля яе і ганьбы пакаштуй. Вымавіш тады: разумею, — і аціхнеш утомна, без болю (бо ён у таго толькі, хто не пагаджаецца).

Племя маё нагамі даперaду выносяць унукі ягоныя, тыя ж пачужэлыя, і пажыткамі дзеляцца. А мо і застанецца пасля яго ўсяго сытасць бяздумная, якой будзе выгода параю? Калі так, дык пажартавала з нас асвячоная эпоха ўсеўладная, быццам ласкавая пані яснавяльможная калісьці, што служкаў сваіх віншавала імянінна ды за стол свой запрасіла, а мы так жа цяпер наеліся за ім ажно да адрыжкі, усё роўна што за ўсе вякі мінулыя, а як жа глумныя над намі!..

**Сакрат Яновіч**

Верасень 1984 г. — чэрвень 1985 г.

## ЧАСОВЫ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ КАМІТЭТ ПОЛЬШЧЫ

Гісторыя Беластоцкай зямлі мае яшчэ шмат „белых плям", нямала важных падзей чакае глыбейшых даследаванняў. Звычайны жыхар Беласточчыны пераважна нічога не ведае аб Часовым Рэвалюцыйным Камітэце Польшчы, які быў створаны ў нашым горадзе. Быў гэта першы на польскіх землях абсалютна рэвалюцыйны ўрад. Думаю, што такі ўзровень нашых ведаў абумоўлены быў дзвюма прычынамі: сувязь Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы з польска-савецкай вайной і ідэалагічныя кантраверсіі сярод кіраўніцтва, якія датычылі галоўных задач рэвалюцыі і спосабу вырашэння сялянскага пытання.

**Паяўленне Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы неадлучна звязана з дзейнасцю** польскіх камуністаў на тэрыторыі Расіі, аб'яднаных у Польскім бюро агітацыі і прапаганды, а пазней, ад 1920 года — у Цэнтральным польскім бюро. У склад яго ўвайшлі вядомыя дзеячы польскага і міжнароднага рабочага руху: Ю. Мархлеўскі, Ф. Кон, Ст. Брадоўскі, Ст. Бабінскі, Я. Далецкі, С. Лазаверт. У перыяд наступлення Чырвонай Арміі Цэнтральнае польскае бюро дзейнічала недалёка ад лініі фронту ў польскіх асяроддзях, сярод ваеннапалонных і дэзерціраў.

Як толькі Чырвоная Армія заняла першы большы горад, а ім аказаўся Беласток, 30 ліпеня 1920 года Цэнтральнае польскае бюро аб'явіла сябе Часовым Рэвалюцыйным Камітэтам Польшчы. На чале яго сталі Ю. Мархлеўскі — старшыня, Ф. Дзяржынскі — намеснік, Ф. Кон і Ю. Уншліхт — члены, Э. Прухняк — сакратар. **Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы быў галоўным заканадаўчым і выканаўчым органам улады на тэрыторыі, занятай Чырвонай Арміяй. У складзе Камітэта дзейнічаў Прэзідыум і пятнац**цаць аддзелаў, на чале якіх стаялі, між іншым, Ст. Гэльтман (сельская гаспадарка), Ст. Бабінскі (лясніцтва), Б. Закс (прамысловасць), Ст. Піляўскі (ахова грамадскага парадку).

У першым афіцыйным камунікаце ад 30 ліпеня сцвярджалася, што галоўным заданнем, якое стаіць перад Камітэтам, з'яўляецца закладка фундаментаў пад лад будучай Польскай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. З гэтай мэтай Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы

а) пазбаўляе ўлады ранейшы шляхецка-буржуазны ўрад,

б) аднаўляе і арганізуе нанава фабрычныя камітэты ў гарадах і фальварках на вёсцы,

в) утварае мясцовыя рэвалюцыйныя камітэты,

г) аб'яўляе ўласнасцю народа фабрыкі, зямельныя маёнткі, лясы і аддае іх пад праўленне камітэтаў,

**д) гарантуе недатыкальнасць сялянскай зямлі,**

**е) стварае органы публічнага парадку, забеспячэння ў гаспадарчыя органы,**

**ё) гарантуе грамадзянам, ла-**

(Праця́г са стар. 1)

грамадскіх і спулдзельчых арганізацый, асабліва ў галіне прымянення імі права і законнасці, а таксама паводзін людзей, звязаных з гэтымі арганізацыямі. Асаблівы націск кладзе яна на прафілактычную, папераджальную дзейнасць пракуратуры.

Здарылася вось у Беластоку, што ваяводская пракуратура накіравала да паўторнага разгледжання адну пастанову ваяводскай рады нарадовай, якая ў некаторых сваіх пунктах выходзіла за рамкі абавязваючай праўнай рэгуліроўкі. Пастанова датычылася адносін да асоб, якія нідзе не працуюць.

Пракурор таксама мае права ад імя грамадзяніна абскардзіць нават правамоцныя ўжо пастановы адміністрацыйных калегій, калі сцвердзіць, што ў святле абавязваючага права яны крыўдзяць грамадзяніна. І гэтакія справы здараліся ў Беластоцкім ваяводстве.

Вельмі важнай, але мала вядомай роллю пракуратуры з'яўляецца забеспячэнне дзяржаўнай маёмасці і кампенсацыя затрат, учыненых у выніку злачыннай дзейнасці. Зладзеі, для прыкладу, абакралі нейкую краму або нейкае прадпрыемства. Адно і другое здараецца ў нас амаль надзённа. Зладзеяў зла вілі, але яны ўжо паспелі растраціць заграбленае дабро. У гэтэкім выпадку, незалежна ад пакарання, прадбачанага ўгалоўным кодэксам, пракурор мае права і абавязак патрабаваць ад злачынцаў поўнай кампенсацыі матэрыяльных затрат, а на кошт гэтых затрат можа быць канфіскавана асабістая і сямейная маёмасць злодзея.

У судзе ідзе вось разбор справы, скажам, аб хуліганскім нападзе на чалавека. Ёсць пакрыўджаны і злачынца, які пераступіў чалавека ў цесным завулку і забраў у яго ўсе каштоўныя рэчы. Суд, вядома, устанаўляе ступень яго віны, а пракурор мае права і абавязак патрабаваць яшчэ дадаткова кампенсацыі матэрыяльных затрат. Вось прыклад: вядомая была ў Беластоку хуліганская вылазка маладых людзей на вуліцы Гаёвай, у выніку якой адзін старэйшы чалавек памёр, а другі, яго сын, быў цяжка пабіты. Хутка ўжо адбудзецца судовы разбор у раённым судзе ў Беластоку. Але незалежна ад вышыні кары, якую прысудзіць суд, які ў нас незалежны, пракурор ужо выступіў наконт грашовай кампенсацыі ў карысць жонкі забітага і цяжка параненага сына.

А вось яшчэ іншае здарэнне. Пабіліся гарачыя юнакі ці дарослыя, задзёрлівыя людзі. Усе яны аказаліся на нейкі час няздольнымі да працы. Аднолькава ахвяры бойкі, як і яе закапёршчыкі, звычайныя разбойнікі, на сваіх прадпрыемствах спадзяюцца атрымаць дапамогу па хваробе. І ў гэтым выпадку пракурор мае права і абавязак сказаць: стоп! Той, хто ўзняў бойку, хто быў яе пачынальнікам ці правакатарам, таму дапамога ад прадпрыемства не належыцца. Дзяржава не можа быць добрай нянькай для злачынцаў. І гэта не толькі беспадстаўная пагроза. Здарылася ўжо, што ўслед за патрабаваннем пракурора адзін з пачынальнікаў бойкі, які і сам парадачна атрымаў, абавязаны быў вярнуць свайму прадпрыемству 13 тысяч зл., а другі — аж 20 тысяч зл. дапамогі па хваробе, якая ім — на аснове права — зусім не прыслугоўвала.

# СТОРАЖЫ ПРАВА

Пракуратура можа ўмешвацца ў дзейнасць устаноў і прадпрыемстваў не толькі тады, калі здарылася злачынства. Важным яе абавязкам з'яўляецца папярэджванне аб магчымасці злачынства, аб яго першых пробліcках. Здарылася, для прыкладу, што два дырэктары давалі важных устаноў нейкім цудам атрымалі будаўнічыя дзялянкі звышнарматыўнай велічыні, нават да паўгектара. Атрымалі гэтыя дзялянкі, практычна беручы, бясплатна, бо ў вечнае арандаванне. А раней мясцовая адміністрацыя на кошт дзяржавы адкупіла гэтыя дзялянкі ад прыватных уладальнікаў. Людзі даведаліся аб гэтым, бо ад суседскіх вачэй нічога не скрыецца, і паведамілі ў партыйны кантроль пры ваяводскім камітэце, а гэтая ўстанова звярнулася ў пракуратуру. Грамадзянскі сігнал пацвердзіўся, і радзе нарадовай гэтага падбеластоцкага мястэчка давядзецца яшчэ раз заняцца размеркаваннем будаўнічых дзялянак на сваёй тэрыторыі. А хто аказаўся вінаватым, дык атрымае па „заслугах". Пракуратура напэўна ўжо пра гэта паклапоціцца.

Да крамаў на вуліцы Ліповай, а таксама на вуліцы Сянкевіча ў Беластоку вельмі часта дабіраліся зладзеі. Пракуратура неаднойчы папярэджвала аб гэтым гандлёвую ўстанову, а ўрэшце загадала, каб яна абсталявала ў сваіх крамах сігнальную электронную апаратуру. Яе кошт шмат таннейшы ад затрат, зробленых зладзеямі. І патрабаванне пракуратуры ўжо рэалізавана.

Многа яшчэ іншых прыкладаў някарнай дзейнасці пракуратуры прыводзілася ў час гэтай прэсавай канферэнцыі. Новыя абавязкі, для прыкладу, ускладае на пракуратуру Сеймавая пастанова аб асаблівай праўнай рэгуліроўцы ў адносінах да найбольш — з грамадскага пункту гледжання — надакучлівых злачынствах. Пастанова дзейнічае ўжо ад 1 ліпеня 1985 года. У першую чаргу павышае яна суровасць пакарання хуліганаў, бандытаў, самагоншчыкаў і спекулянтаў спіртнымі напіткамі. Ужо за паўлітроўку самагонкі можна атрымаць судовы прыгавор да 2 гадоў турмы без права на прыпыненне (завешэне) выканання пакарання. Незалежна ад гэтага пракуратура мае права патрабаваць высокіх грашовых штрафаў.

Да гэтай праблемы пракуроры абяцалі нам вярнуцца яшчэ пазней, калі накопіцца крыху вопыту ў прымяненні гэтай суровай пастановы. Тады і я напішу аб гэтым болей абшырна.

**Віктар Рудчык**

## З маёй званіцы

### ГРЭШНАМУ СЯБРУ

Васіль Петручук, як піша, быў на многіх пахаваннях, але ніколі не бачыў, каб крыж ставілі ў нагах, як гэта зрабілі на магіле яго дваюраднага брата. Беластоцкі званар падазрае ў гэтым падвох і звяртаецца да чытачоў, каб тыя яму растлумачылі, што б гэта магло значыць.

Бачыце, я таксама на многіх могілках быў. На многіх быў, але і на многіх не давялося пабываць. Ад каго гэта залежыць, што ў адным месцы робяць так, а ў іншым гэтак, не ведаю. У нас, у Юшкавым Грудзе, ставяць крыжы ў нагах. Ад усходу сонца.

Майго бацьку лічылі рэлігійным, бо чытаў многа набожных кніжак (хоць да споведзі не хадзіў і пастоў не прызнаваў). Добра помню, як ён тлумачыў усхваляваўшае Петручука пытанне.

— Таму хаваюць на ўсход нагамі і крыж у нагах ставяць, — казаў бацька, — каб нябожчыкі, калі будуць уставаць на страшны суд, былі вачыма да сонца, і каб крыж мелі перад сабой, а не за плячыма. І калі каму будзе цяжка ўставаць, то каб мог за крыж узяцца.

І мне здаецца, што трэба ўставаць да крыжа вачыма. На крыжы ж імя і прозвішча і напісана, калі памёр. Страшны суд можа быць праз мільярды гадоў, не кожны спамятае сваё прозвішча. А выклікаць, бадай, будуць па прозвішчы. Судзіць будуць за ўчынкі, словы і думкі. Найгорш будзе з думкамі. Яно, нядобрае, часам само лезе ў галаву. Як з тым генералам, які, сустрэўшы прыгожую дзяўчыну, падумаў: „Дзе ж ты была, калі я быў у чыне яфрэйтара". А так думаць, гэта ж грэх.

Грэх таксама думаць, што сваёй несвядомасцю (мы людзі тэмны) абдурыш, шаноўны Васіль Петручук, тую судзейскую калегію. А твая прадузятая насцярожанасць наконт крыжоў у нагах сведчыць аб такім намеры. Не грашы!

Такі самы грэшнік **Ф. Хлябіч**

---

яльна выконваючым загады рэвалюцыйных улад, поўную бяспеку.

Галоўным інтэрпрэтатарам праграмы Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы стаў выдадзены ў той самы дзень „Маніфест да польскага рабочага народу гарадоў і вёсак".

Адной з найбольшых праблем у працы Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы было сельскагаспадарчае пытанне. Камітэт, згодна з думкамі свайго старшыні, быў супраць падзелу памешчыцкай зямлі паміж малазямельнымі і беззямельнымі сялянамі. Ён абмежаваўся толькі нацыяналізацыяй усіх зямельных маёнткаў і лясоў пры недатыкальнасці сялянскай зямлі. Гаспадарамі экспрапрыіраваных маёнткаў сталі фальваркавыя камітэты, якія складаліся з сельскагаспадарчых рабочых. Сельскагаспадарчая палітыка Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы, якая ўводзіла падзел фальваркаў паміж сельскагаспадарчымі рабочымі, выклікала крытычныя ўвагі Леніна і была таксама галоўнай прычынай слабой падтрымкі праграмы Камітэта вёскай.

Значна большыя эфекты дала дзейнасць Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы ў горадзе. Рабочыя Беластока, Лап і ваколіц масава пачалі адбудоўваць разбураную чыгунку (адрамантавана было больш 500 км дарогі). 10 жніўня нацыяналізавана было 8 тэкстыльных фабрык. З гэтай нагоды перад палацам Браніцкіх адбыўся мітынг, на якім на рукі Ю. Мархлеўскага быў перададзены сцяг з надпісам „Рэвалюцыйнаму Камітэту Польшчы — рабочыя Беластока".

Вялікім дасягненнем Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы было ўзнаўленне амаль праз некалькі дзён працы класавых прафсаюзаў (існуючыя да моманту ўваходу Чырвонай Арміі прафсаюзы былі распушчаны).

11 жніўня была арганізавана Часовая цэнтральная камісія вытворчых саюзаў, якая аб'ядноўвала ў 11 прафсаюзах 15 тыс. рабочых Беластока.

Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы як адміністрацыйны орган зрабіў вельмі многа для ўнармавання жыцця ў горадзе, надаючы яму адначасова новы, сацыялістычны характар. Рабочыя брыгады ехалі на вёску і там дапамагалі фальваркавым камітэтам пры зборы ўраджаю.

Ужо праз некалькі дзён ад утварэння Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы пачалі нармальна працаваць большасць магазінаў (прадукты прыдзяляліся толькі працуючым). Рэквіраваны былі запасы лякарстваў. Казармы і частка палаца Браніцкіх былі пераўтвораны ў бальніцу. Была ўведзена бясплатная лекарская апека для ўсяго працуючага насельніцтва. Пачалася падрыхтоўка да навучальнага года. Праведзена была рэгістрацыя ўсіх кіраўнікоў асветных устаноў, зроблены быў перапіс настаўнікаў і дзяцей. Арганізаваны былі вячэрнія курсы для непісьменных. Перайшлі на ўласнасць дзяржавы бібліятэкі і чытальні.

Вялікім дасягненнем Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы было выданне ўласнага прэсавага органа „Гонец Чырвоны" (выйшла дванаццаць нумароў, галоўным рэдактарам быў Тадэуш Радванскі).

Узброеным крылом Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы ў будучай Польскай Сацыялістычнай Рэспубліцы мела быць Польская чырвоная армія. Яе базай мелі быць польскія рэвалюцыйныя атрады, якія ўдзельнічалі ў абароне Савецкай Расіі (між іншым, Заходняя дывізія стралкоў). Начальнікам быў пастаўлены Раман Лонгва. У Беластоку былі створаны два палкі пяхоты, у Бельску Падляшскім — адна кампанія. Апрача таго, атрады Польскай чырвонай арміі камплектаваліся ў Бабруйску. Польская чырвоная армія адышла разам з Чырвонай Арміяй і потым перастала існаваць.

У праграмных тэзісах Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы прадбачвалася, што разам з развіццём сітуацыі бу-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 5)

# ЧАСОВЫ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ КАМІТЭТ ПОЛЬШЧЫ

дзе праведзена змена назначаных ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў на выбіральныя рэвалюцыйныя камітэты. У гэтай змене меў праявіцца ўзрост значэння новай улады і аддзяленне яе ад вайсковых улад.

На тэрыторыі Беласточчыны выбраны былі такія камітэты ў Беластоку (акругі), Бельску, Саколцы, Сейнах, Шчучыне (павятовыя).

Дзейнасць рэвалюцыйных камітэтаў была абмежавана часам, калі на гэтай тэрыторыі была Чырвоная Армія. Таму некаторыя камітэты развілі вельмі актыўную дзейнасць, а іншыя паспелі толькі арганізавацца. Да найбольш актыўных належаў, несумненна, павятовы рэвалюцыйны камітэт у Бельску Падляшскім (старшынёй быў Юзэф Ленартоўскі, пазнейшы член ЦК КПП і дзеяч ППР). Камітэт займаўся зборам ураджаю збожжа ў пакінутых фальварках, адкрыў амбулаторыю і бальніцу з бясплатнай апекай, сталоўку для бедноты, арганізаваў кравецкую і шавецкую спулдзельню, а таксама выставіў на патрэбы Польскай чырвонай арміі „чырвоную кампанію".

Членам камітэта ў Лапах быў на працягу некалькіх дзён Марцэлі Навотка. Лапскія дзеячы запрапанавалі адшукаць супольную магілу забітых дзеячоў Рускага Таварыства Чырвонага Крыжа і паставіць на ёй сімвалічны помнік. Камітэт у Лапах шмат працы прысвяціў рамонту чыгуначнага вузла.

У складзе камітэтаў былі дзеячы КПП, Прафсаюза сельскіх рабочых, ППС, якія пражывалі на тэрыторыі, дзе дзейнічаў Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы. Сярод іх былі І. Ашаровіч і С. Дзеніс у Беластоку, Г. Самсановіч у Граеве, В. Храбаловіч у Бельску, К. Смактуновіч у Нарве, К. Туральскі ў Ломжы, Я. Тых у Лапах.

**Чым быў Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы?**

**Перш за ўсё, быў важным этапам у фармаванні праграмных тэзісаў польскіх камуністаў. КПП, а пазней і ППР не паўтарылі памылак Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы, галоўным чынам маем на думцы спосаб правядзення сельскагаспадарчай рэформы, адносіны да левых груповак, ролю нацыянальнага фактара.**

**Поспехі ПКВН з'яўляюцца найлепшым доказам таго, што вывады, зробленыя на аснове памылак Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы, былі правільныя.**

**Аляксандр Іванюк**



Фрагмент жыллёвага раёна на ўскраіне Мінска.

# ПЯЦЬ ДЗЁН У ГАСЦІНЕ

(Працяг са стар. 2)

праўдную сучасную метраполію. Тыя раёны, комплексы, гмахі, якія яшчэ чверць стагоддзя таму назад лічыліся навабудоўлямі, сёння ўспрымаюцца ўжо як даўнія, гістарычныя, старажытная частка беларускай сталіцы. Нават такія мадэрнісцкія архітэктурныя ансамблі, як Дом урада, Беларускі тэатр оперы і балета ці галоўны корпус Акадэміі навук БССР — творы нашага земляка родам з Бельска-Падляшскага, заслужанага дзеяча мастацтваў Іосіфа Рыгоравіча Лангбарда цяпер здаюцца быць пакрытымі дастойнай пацінай векавой даўнасці, хоць яны былі збудаваны ўсяго 50 год таму назад і пасля ваенных знішчэнняў уваскрэслі з руінаў толькі тры-чатыры дзесяткі год таму назад. Мінск дужэе, разрастаецца ўздоўж і ўшыр, падымаецца ўверх і запускае карэнні ўглыб. Гусцее. Пустэча, якая віднелася яшчэ чатыры гады таму назад уздоўж праспекта Машэрава, ужо зарасла сотнямі высотных жылых дамоў. Акадэмія навук паскоранымі тэмпамі будуе ўжо пад Мінскам аграмадны, плошчай у 300 гектараў новы акадэмічны цэнтр, у якім будзе звыш дзесятка доследных інстытутаў, жылы раён з насельніцтвам каля 40 тысяч чалавек. А на Троіцкай гары, дзе быў дом, у якім нарадзіўся Максім Багдановіч, з размахам ідуць рэстаўрацыйныя працы, якія ўваскрашаюць Троіцкае прадмесце з XVI-XIX стагоддзяў, у тым ліку і домік аўтара „Слуцкіх ткачых" і „Зоркі Венеры". Адтуль відаць ва ўсёй красе велічны помнік Славы, якім мінчане адзначылі 40-годдзе перамогі над фашызмам. Так, уязджаць у Мінск неабходна праз Хатынь...

І зноў Заслаўская шаша: пералескі, палі, вёскі, фермы. Едзем у напрамку Ліды, абмінаем Навагрудчыну. Шкадуем, але час дыктуе свае правы: сонца хіліцца да захаду, а перад намі каля трохсот кіламетраў дарогі ў Гродна.

Каля поўначы зноў у маё акно чырвонымі зоркамі свеціць мачта Гродзенскага тэлебачання. Апошняя ноч на Гродзеншчыне. Навала ўражанняў доўга не дае заснуць. Якая ж ты маладая і новая, Беларусь!

І хоць ужо апошнія гадзіны на гасціннай зямлі, але ўсё новыя сустрэчы з цудоўнымі людзьмі. Іосіф Іванавіч Багіно знаёміць нас з маладым прыстойным вусачом — Валерыем Сяргеевічам Коцкім, журналістам „Гродзенскай праўды". Ужо з першых слоў мне становіцца ясна, што нашу Беласточчыну ён ведае, як уласную кішэню, у яго тут дзесяткі два бліжэйшых і далейшых сваякоў. Што ж, бацька яго родам з вёскі Кулі, што зусім на граніцы ў Бераставіцкім раёне. Падчас вайны ён быў сувязным у партызанскай брыгадзе імя Неўскага, якая актыўна дзейнічала таксама і на Беласточчыне. Сын ганарыцца партызанскім мінулым бацькі, яго ахвярнай працай у будове новай Гродзеншчыны ў пасляваенны час. Ён — здольны, аператыўны публіцыст і... аўтамабіліст-гоншчык, старшыня Гродзенскага аўтамабільклуба. І добры гаспадар: па тэлефону доўга войкаў, што на ўчастку завялі памідоры, якія дні два як ён уласнаручна пасадзіў.

Настае час развітання. У абласным камітэце КПСС нас прымае сакратар Іван Рыгоравіч Машко. Прыемная, сяброўская атмасфера. Гутарылі пра сучасную Гродзеншчыну і Беларусь, якімі мы іх убачылі. Не тоім, што ў той час, калі наша краіна за мінулыя пяць год, падчас крызіснай завірухі, адстала на цэлае дзесяцігоддзе ў сваім развіцці, то нашы савецкія сябры пайшлі далёка наперад ва ўсіх дзялянках жыцця. Сумная праўда, але ж праўда. Гродзенскія сябры падбадзёрваюць нас, выказваюць прыхільныя спасцярогі са свайго наведання Беласточчыны і Польшчы. Супольна намячаем планы больш актыўнага супрацоўніцтва беластоцкага і гродзенскага журналісцкіх асяроддзяў — хочам бываць у суседзяў часцей і даўжэй.

Потым сустрэча з усім калектывам працаўнікоў „Гродзенскай праўды" і Гродзенскага выдавецтва. Абменьваемся вопытам са сваіх журналісцкіх будняў і свят. Жартуем, але неяк сумнавата на душы: шкада, што гэта ўжо апошнія хвіліны ў гасціне.

На вакзале яшчэ моцныя, таварыскія поціскі рук:

— Да новых спатканняў, дарагія суседзі і сябры!

**Мікола Гайдук**

Фота аўтара

## ВАЕННЫЯ СЦЕЖКІ

# ГРЫШКАЎ ПАДАРУНАК

**Скрабляцкі лес безупынку шумеў сваю адвечную песню. У Скрабляцкім лесе гаспадарыла, на жаль, нямецкая лясная адміністрацыя, якая патрабавала ўсё больш і больш высакаякаснай драўніны. Пад пілу і сякеру ішлі неабсяжныя сосны, з трэскам клаліся на зямлю кучаравыя елкі.**

**У Скрабляцкім лесе шукалі таксама ратунку партызанскія групы і атрады. Скрабляцкі лес быў своеасаблівай перавалачнай станцыяй, дзе былі ўмовы, каб адносна бяспечна перачакаць дзень, крыху адпачыць і ноччу зноў рушыць у партызанскі край між Пружанамі і Косавам. Гэты шлях партызанскія сувязныя і асобныя дыверсійныя групы адольвалі на працягу 3-4 дзён. Ішлі на заданні або вярталіся назад.**

**І так пачыналася лета 1943 года. Атрад Хведара Парфенюка, званага „Грышкам", разросся ўжо да 30 з лішнім чалавек і таксама хаваўся найчасцей у Скрабляцкім лесе.**

**Аднойчы на месцы партызанскай „пошты" за Скраблякамі сувязны, хлопец з Грыбаўскіх хутароў, заўважыў на копчыку сігнальны знак. Схаваў свой веласіпед за карчом, а сам, паўзіраўшыся навокал, ці дзе-лень няма каго чужога, амаль подбегам накіраваўся на гэтую „пошту". Адваліў камень і ў тайніку знайшоў запіску, загорнутую ў брызентавую анучу. Анучу паклаў назад, а запіску схаваў у кішэню і пабег да ровара. І толькі ў лесе, прысеўшы за густым ядлоўцам, адважыўся прачытаць партызанскі загад. Быў ён кароткі. „Прыходзь на яўку. Справа тэрміновая. Грышка".**

**Гэтай „тэрміновай справай" аказаўся сапсаваны радыёпрыёмнік, — адзіная ў партызан крыніца вестак з далёкага фронту, дзе ішло смяротнае змаганне з лютым ворагам. Аб выніках гэтага змагання, аб устойлівай і пераможнай барацьбе чырвонай арміі партызаны паведамлялі навакольнае насельніцтва машынапіснымі лістоўкамі. Радыё, аднак, чамусьці замоўкла і неабходна было знайсці кагосьці, хто разбіраўся ў гэтай складанай ды рэдкай на той час апаратуры. Так, рэдкай, бо тады, у пачатку саракавых гадоў нашага стагоддзя, мала хто ў нашых вёсках нават ведаў аб існаванні такой цудоўнай прылады, якая голас і музыку ловіць з паветра ды перадае на сотні кіламетраў іншым людзям.**

**У Гарадку жыў фельчар Карпюк. Карпюкоў у гэтых старонках сялілася спрадвеку вельмі многа. Але Карпюк-фельчар быў адзін. Таму яго называлі звычайна фельчарам і кожны ведаў, аб кім ідзе гутарка.**

**У гэтага фельчара быў сын Валодзька. Ён яшчэ пры панскай Польшчы паспеў пабываць у нейкіх там вышэйшых школах, магчыма, што і гімназію амаль закончыў. Гэты ж Валодзька цікавіўся таксама і радыётэхнікай. Людзі аб гэтым ведалі.**

**Беларусам і палякам забаранялася трымаць і слухаць радыёпрыёмнікі. Дазвалялася гэта**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

З малой іскры вялікі агонь бывае.

Каб конь ведаў аб сваёй сіле, то б ніхто яго ў рукі не ўзяў.

Лепей адзін прыяцель, як дзесяць ворагаў.

(Працяг са стар. 1)

# КУПАЛЛЕ НА НАРВЕ

лепшымі пачуццямі. Вядома, што не абыйшлося без чарадзейных і забаўных легенд і баек, якія расказваліся пры каўбасцы, спечанай над вогнішчам.

Наступіла поўнач і пара пускаць на ваду вянкі з запаленымі свечкамі. Як жа цудоўна яны выглядалі, калі плылі па Нарве пад гукі цудоўнай мелодыі гармоніка. Рэчка і неба над галавой свяціліся асаблівым прывідным святлом. Навакольная прырода змянілася ў дзівосны, казачны свет. Хвалі нясуць на небасхіл яркае святло вянкоў, быццам людское жыццё. У цёмным лесе мігаціць агеньчык папараці-кветкі, як тое людское шчасце. Незабыўнае ўражанне і немагчыма яго выразіць словамі. Гэта трэба проста самому перажыць.

Аднак у купальскую ноч не спяць таксама злыя духі, ведзьмы. Каб ачысціцца ад іх уплыву, трэба пераскочыць вогнішча двойчы, наўскрыж. Агонь ачышчае чалавека, таму многія з удзельнікаў, а перш за ўсё моладзь, прайшла рытуальнае ачышчэнне над полымем вогнішча. Замест карагодаў прысутныя выкручвалі на травемураве рамантычныя вальсы і рытмічныя полькі-трасухі. Усё праходзіла ў сімпатычнай і дружнай атмасферы. Усе адчувалі сябе маладымі — вядома, святая гэта ноч.

Купальскую сустрэчу арганізаваў гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку і гурток у Рыбалах. Хаця і былі пры гэтым арганізацыйныя недахопы, аднак важна, што гэтая сустрэча адбылася. Яе ўдзельнікі пераканаліся ў неабходнасці прадаўжэння купальскай традыцыі на нашай зямлі. Належыцца падзяка людзям, якія беспасрэдна ўнеслі свой уклад у яе адраджэнне: Валянціне Ласкевіч (старшыня Беластоцкага аддзела), Мікалаю Гайдуку (намеснік старшыні аддзела), Сцяпану Копе (музыкант сустрэчы), Віталісу Макацу (вядучы сустрэчу), усім членам „Каласкоў" і калектыву з Рыбалаў, дэкламатарам паэзіі Купалы: Ірыне Макац, Міры Матчук, Андрэю Жамойдзе, хлопцам, якія падрыхтавалі вогнішча, дзяўчатам, якія спляді прыгожыя вянкі, і ўсім іншым, хто дапамог у стварэнні дружнай, культурнай атмасферы. Добрыя весткі аб гэтай сустрэчы пайшлі па Беласточчыне. Гавораць, што і турысты, якія адпачывалі ў той час над Нарвай, любаваліся купальскімі святкаваннямі. У добры час, каб у наступных гадах Купалле было радасным і цёплым святам у нашым асяроддзі.

**Ян Мордань**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

С. Ф. Сокол — Политическая и правовая мысль в Белоруссии 16 — первой половины 17 в.в. „Наука и техника", Минск 1984, стр. 186, цана (у ПНР) — 84 зл.

История рабочего класса Белорусской ССР в четырех томах. Т. 1: Рабочий класс Белоруссии в период капитализма. „Наука и техника", Минск 1984, стр. 398, цана (у ПНР) — 222 зл.

Вячаслаў Шалькевіч — Кастусь Каліноўскі. Старонкі біяграфіі. Рэдакцыя газеты „Голас Радзімы", Мінск 1985, стар. 128. Цана 20 кап.

Podręcznik do nauki religii prawosławnej (materiały pomocnicze). Prawosławna Diecezja Białostocko-Gdańska, Białystok 1984, ss. 100, 50 il.

**П. Байко**



**„Беларуская песня-85". Анна і Ірына Макац — першае месца сярод дуэтаў сучаснай песні.** **Фота М. Гайдука.**

## СЭРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я ўжо дарослая — мне ж споўнілася ўжо 14 год і я скончыла сёмы клас. Але вось мая мама ніяк не хоча зразумець гэтага. Ёй усё яшчэ здаецца, што я дзіця. І асабліва яскрава яна дала мне гэта зразумець у апошні час. Пасля школы мы з сяброўкамі і сябрамі (тры дзяўчынкі і трое хлопцаў) вырашылі паехаць, як кажуць, „у Польшчу", паглядзець крыху свету і пазнаёміцца з людзьмі. Мы доўга збіраліся ў падарожжа, рыхтаваліся як маглі. Кожны купіў новы рэчмяшок, „адзідасы" і іншыя рэчы, неабходныя ў падарожжы. Адзін хлопец пазычыў недзе вялікую палатку, дзе мы маглі б спаць. Яго бацька абяцаў прывезці яе ў Аўгустова, дзе мела быць наша цэнтральная база.

І вось усё лопнула, як мыльны пузыр. Мая мама паставіла „вета", адным словам, не дазволіла мне ехаць, матывуючы сваё рашэнне тым, што я яшчэ быццам бы маю час на тое, каб ездзіць самастойна, ды яшчэ ў мешанай кампаніі. І так я засталася дома, а на маё месца мае сябры ўзялі іншую дзяўчынку.

Дарагое Сэрцайка! Можаш сабе ўявіць, як я ўсё гэта перажыла. Праўда, бацькі абяцалі, што на ўвесь жнівень мы выедзем на Балтыку, але што мне за цікавасць адпачываць з бацькамі?! Так што сёлета, лічы, канікулы прапалі, хаця, праўда, 2 тыдні я ўжо правяла ў бабулі на вёсцы. Але што з таго, калі было там пуста і сумна, толькі хадзілі мы на тэлевізар у святліцу.

І вось так, дзякуючы маме, я сапсавала сабе лета. Што ты на гэта скажаш, Сэрцайка? Няўжо дарослыя павінны так нішчыць жыццё сваім дзецям? **Мірка**

Мірка! Усё ў жыцці адноснае. І калі яшчэ крыху падараслееш, то зразумееш, магчыма, што тое, што здавалася табе калісь знішчэннем, было якраз вельмі свядомым і правільным выхаваннем. Бацькі здаюць сабе справу з таго, што ты яшчэ замаладая на гэткія вылазкі. Іншая справа, каб вы паехалі цэлым класам ці нейкай групай з вашым настаўнікам — тады гэта магла б быць краязнаўчая экскурсія, але ў даным выпадку магло б усё скончыцца на побыце ў Аўгустове, мітусні ў супольнай палатцы, або і яшчэ якімсьці непрыемным інцыдэнце. У супольных палатках рознае бывае! — павер мне, калі не верыш бацькам.

**Зрэшты, грош цана тваім сябрам, калі так лёгка прамянялі цябе на іншую сяброўку (усё ж трэцяя была патрэбна да пары?!). не прабуючы растлумачыць тваім бацькам, што ў падарожжы нічога дрэннага з табой не здарыцца.**

**Бацькі зрабілі слушна, і ты не павінна на іх крыўдзіцца. Няўжо ў 14 год ты не можаш знайсці сабе месца ў бабулі на вёсцы без кампаніі? Толькі тэлевізар, кажаш, і быў у святліцы... А дзе рэчка, сонца, лес, у якім сёлета поўна грыбоў і ягад?.. Ці ў бабульчынай вёсцы і гэтага не было? Вельмі няправільна разумееш ты, Мірка, адпачынак. Адпачынак для цябе — толькі вясёлая гульня, іншых жа валёраў лета ты проста не заўважаеш.**

**Едзь жа з бацькамі ў жніўні на мора, плавай там, загарай, хадзі ўсюды, мо і кампанія якраз знойдзецца. Але заўсёды памятай — бацькі свайму дзіцяці не ворагі, ды і жыццё ведаюць лепш. Да гэтага іх упаўнаважвае на пару дзесяткаў гадоў старэйшы ўзрост і ідучы з ім у пары вопыт.** **Сэрцайка**

**толькі райсхдойчам, прадстаўнікам гэтай нібы вышэйшай расы. І таму такая, здавалася б, простая справа, як рамонт радыёпрыёмніка, станавілася вельмі складанай і небяспечнай праблемай. Калі б гітлераўцы злавілі кагосьці з гэтым радыёпрыёмнікам, яму аўтаматычна ў найлепшым выпадку пагражала пасылка ў канцэнтрацыйны лагер, з якога вязні выходзілі на волю адно толькі з дымам цераз комін крэматорыя.**

**Сувязны не ўцешыўся, даведаўшыся, дзеля чаго яго выклікаюць на яўку.**

**— Можа, лепш было б недзе ў лес папрасіць гэтага фельчаравага Валодзьку? — нясмела запрапанаваў ён партызанскаму камандзіру Грышку.**

**— Аб гэтым мы ўжо падумалі і без цябе, — адказаў яму Грышка. — На жаль, нічога тут не атрымалася. Яму патрэбны паяльнік, ды штосьці яшчэ, каб пад свет падключыцца, а гэтага ў лесе няма. Радыёпрыёмнік неабходна даставіць у Гарадок фельчару на кватэру.**

**Сувязны для сябе заданняў не падбіраў і не меў права сартаваць іх на горшыя і лепшыя,** каб адны адкласці на паліцу, а другія з ахвотаю ажыццяўляць. Давялося ўпакаваць гэты радыёпрыёмнік у мяшок, прывязаць яго да свайго ровара і з душой на валаску ляснымі сцяжынкамі прабіцца ў Гарадок, дзе паўным-паўно ўсялякага роду гітлераўскіх прыслужнікаў хадзіла па вуліцах. Ніколі не было вядома, хто і за што прычэпіцца да чалавека.

„Калі зловяць, — рашыў юнак, — тады буду гаварыць, што гэты радыёпрыёмнік знайшоў я ў лесе і вязу здаваць нямецкім уладам."

Грышка яго папярэдзіў, што фельчараў Валодзька будзе ўжо ведаць аб гэтай пасылцы, хопіць яму сказаць, што прывёз падарунак ад Грышкі. Што, аднак, будзе, калі прыдзецца мець справу не з сынам, а з бацькам, са старым фельчарам? Ці ён не пабяжыць адразу ў жандармерыю, убачыўшы, з чым да яго прыехаў нейкі мужыцкі басаногі хлапчук? Што тады яму рабіць?

Уяўны страх, як заўсёды, аказаўся болей страшны ад рэальнай праўды. Валодзька Карпюк, сын фельчара, без слова прыняў падарунак ад Грышкі і сказаў, што паведаміць, калі будзе справа афармлена.

Сувязны вярнуўся дамоў, задаволены, што ўдалося яму выканаць партызанскі загад, але ўсё яшчэ не мог пазбыцца нейкага ўнутранага хвалявання. Аж да вечара з трывогай спазіраў на дарогу ад Гарадка, каб загадзя прыкмеціць небяспеку ў выглядзе павозкі з прадстаўнікамі ахоўнікаў „новага парадку" на акупіраванай тэрыторыі. Нават прыснілася яму, што за ім ганяюцца па лесе, што яго ловяць і як барана падвешваюць на ланцугу, каб аблупіць са скуры. Сарваўся з пасцелі яшчэ надосвітку і рашыў уцякаць з хаты, каб схавацца ў Скрабляцкім лесе, дзе яны вялі загатоўку драўніны. Там ён адчуваў сябе болей бяспечна. Калі што, думаў, паспею чмыхнуць у лес і далучуся да партызан. Прыхаваную зброю на гэтакі выпадак ён здаўна трымаў у ляcным тайніку.

За натужлівай працай дзень прайшоў параўнальна спакойна. Вяртаючыся дамоў, найперш

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 4)

### АДГАЛОСКІ

ні, дакладней, калі „Ніва" станецца ўжо годным канкурэнтам для такіх выдатных газет, як „Polityka" і іншыя, тады можна будзе, думаю, сказаць, што яна ўжо такая, якой быць павінна.

**А. Маўчун**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


**А. Паскробышаў**

## БЕЛЫ ВЕТРАЗЬ

На вёску насоўвалася цёмная хмара. Бабуля, убачыўшы гэта, захвалявалася і пачала некуды збірацца.

— Бабуля, ты куды? — спытаў у яе Міколка.

— Навальніца будзе, а качак няма, трэба дадому прыгнаць.

— І я з табою! Шукаць памагу! — Міколка ў навальніцу баяўся заставацца адзін.

— Я далёка пайду. І бачыш, якая хмара? Вымакнеш! Ніткі сухое на табе не застанецца.

— Бабу-уля...

— Не цягніся, кажу, за мною! Вазьмі вось, у хлеўчуку знайшла.

— Мая лодачка з ветразем! — зарадаваўся хлопчык. — А я думаў, яна згубілася.

— Чакай мяне дома. Мо, пакуль буду шукаць, качкі самі прыдуць, дык варотцы адчыніш. Чуеш?

— Чую, чую... — адказаў Міколка. Яму нецярпелася пабегчы на сажалку, што зелянела ад раскі непадалёку двара.

Ледзь толькі бабуля знікла з вачэй, Міколка шуснуў за вароты. Лодачку з белым ветразем прыціскаў да грудзей.

Але не прабег і колькі крокаў, як — трах-тара-рах! — пачуўся страшэнны трэск. Міколка пужліва ўцягнуў галаву ў плечы і даў лататы назад. А маланка ўжо ўспыхвала адна за адною, і першыя вялізныя кроплі зашлёпалі па зямлі.

— Крэк, крэк! — пачулася раптам. Спалоханыя качкі спяшаліся дадому. З бялюткіх, як снег, спін скочваліся празрыстыя гарошыны вады.

Міколка пачаў лічыць іх на пальцах. Загнуў усе пальцы на левай руцэ і чатыры на правай. Адзін пальчык застаўся не загнуты. А Міколка добра ведаў, што качак павінна быць якраз столькі, колькі пальчыкаў на абедзвюх руках. Дзе ж яшчэ адна? Мо заблудзіла, а мо які сабака злавіў?

Дождж лупцаваў па дрэвах-прысадах, як пугамі, па двары беглі каламутныя ручаі. Міколка зірнуў у адзін бок двара і ў другі: качкі не было.

А маланкі ўсё бліскаюць страшна, а яшчэ страшней бабахае, як з гармат, гром. Але на дварэ быццам пачало святлець, хмара стала аддаляцца. Вось і сонейка нясмела праглянула, засіхацелі на лісцях кроплі... Не чакаючы, пакуль дождж зусім перастане, Міколка пабег да сажалкі.

Вецер пазганяў раску да берагоў, паверхня вады ачысцілася. Міколка дастаў з-за пазухі лодачку з белым ветразем, пусціў на ваду. Яе адразу падхапіў вецер, пагнаў да другога берага. Але раптам яна зачапілася за купку асакі і спынілася. Паспрабуй дастань цяпер! Міколка кінуў у ваду кіёк. Мо ўскалыхнецца хваля, мо вызваліцца лодачка?

— Крэк-крэк! — пачуўся голас качкі. Бялюткая, чысценькая выплыла яна з зараснікаў каля другога берага.

— Пі-пі! — пачуўся нейкі дзіўны гук. За качкай, спяшаючыся, каб не адстаць, плыло маленькае качаня. Але не белае, як качка, а шэраватае, з плямкамі.

„Адкуль яно такое тут?“ — здзівіўся хлопчык.

А качка даплыла да лодачкі з ветразем, дзеўбанула яе. Мо хацела пакаштаваць, ці смачная гэта незвычайная рэч.

Лодачка вызвалілася, вецер зноў падзьмуў у ветразь, пагнаў яе да другога берага.

Міколка кінуўся наўкруг, каб пераняць лодачку з таго боку. І толькі ён злавіў лодачку, як пачуўся голас бабулі:

— Дык вось ты дзе! Я ж табе казала дома сядзець!

— Бабуля, качкі вярнуліся, толькі аднае гэтае не хапае, — крыкнуў Міколка. — Маленькага нейкага знайшла, вартуе!

— Ай-яй-яй, — здзівілася бабуля, замахала дубчыкам: — Дадому, бадзягі! Дадому! Вуцьвуць-вуць...

Міколка памог бабулі выгнаць качку з сажалкі.

Качка вяла за сабою чужое качаня і ласкава перагаворвалася з ім. А Міколка ішоў за бабуляй ззаду — паціху, бо малое не спраўлялася тупацець на сваіх маленькіх жоўтых лапках. І Міколка і бабуля ўсміхаліся.



*Крыся Бароўская, сёлетняя выпускніца школы ў Ласінцы. Шматразовая лаўрэатка конкурсаў беларускай песні для школьнікаў.*

*Фота Я. Чэрнякевіч.*



*Урок музыкі ў школе ў Махнатым. Дзеці граюць на розных цікавых інструментах.*

*Фота Я. Чэрнякевіч.*

**Сцяпан Кухараў**

## ПА ГРЫБЫ

**Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.**

Я спяшаўся на свае, даўно аблюбаваныя і надзейныя мясціны, спадзеючыся натрапіць на неруш, а Уладзік цягнуўся нехаця, час ад часу спатыкаючыся і блытаючыся ў густым кучаравым чарнічніку.

— Глядзі ўважліва, кіруйся бліжэй да балацянкі, дзе з зімы затрымалася вільгаць, — павучаю Уладзіка, бо бачу, што ён дыбае задраўшы галаву і не надта адыходзіць ад мяне — пэўна ж, баіцца заблудзіцца.

Лес ужо звінеў птушынымі галасамі. У купчастым сасонніку на Сунічнай гары азвалася зязюля. Весела кукавала — з раніцы. Відаць, ёй пашчасцілася добра падсілкавацца.

— Мы некалі загадвалі, як былі малыя, каб зязюля палічыла нашыя гады, — кажу я Уладзіку, калі мы суцішыліся на лясной сцежцы.

— Ці многа яна ж вам налічыла? — цікавіцца сын.

— Як каму, аднаму доўга кукуе, другому разы два пракукуе і заціхне...

— Тады што?..

— Тады той ходзіць хмуры, panылы, як ты сёння...

— А я грыб знайшоў! — на ўвесь голас закрычаў Уладзік і аж зайшоўся ад радасці. — Грыб-баравік!..

Раптоўна варухнулася зайздрасць — пачуццё знаёмае кожнаму грыбніку. Я агледзеў сынаву знаходку — чорнагало-

(Працяг на стар. 10)

**Ларыса Геніюш**

## АЛЁНКА—ДАКТОРКА

**На палянцы ля ракі**
**Сабраліся хлапчукі.**
**— Бум-бум, тра-та-та —**
**Гэта строяцца палкі.**

**Апанас-задзіра**
**Будзе камандзірам.**
**Янка будзе лётчыкам,**
**Гена кулямётчыкам.**

**Кім будзе Алёнка?**
**— Буду я дакторкай.**
**Буду ўсіх падрад лячыць**
**Ёдам і зялёнкай.**

**Ваяваць, страляць, глуміць —**
**Гэта не навука.**
**І не штука гуз набіць,**
**Вылечыць — вось штука.**

## ПРА ЗАЙКАЎ

**— Я не буду сёння есці, —**
**Кажа маме Вера. —**
**Ты аддай маю вячэру**
**Зайкам на вячэру.**
**Занясі ім, мама, кашу,**
**Тваражок і прастаквашу,**
**Малышам у лапкі —**
**Па драбочку шакаладкі.**
**— Дык у іх таксама**
**Ёсць напэўна мама,**
**Кажушок пухаты**
**Ды разумны тата.**

# ШЧУПАК

Расказаў мне
Адзін рыбак,
Што трапіўся яму шчупак
Чатыры метры даўжынёю,
Вагой, магчыма, тры пуды.
— Схапіў, — казаў, —
Яго я пяцярнёю
І ледзьве вывалак з вады.
Ён быў падобны
да яловага камля,
Хвастом як пляснуў —
Ходарам зямля.
Што з ім рабіць?
Стаю і маракую,
Як мне з ім быць?
Я думаю-мяркую.
Не ўлезе ж аніяк
У наш кацёл
Такі шчупак.
І я яго назад
У вір адпрэчыў,
Плыві, кажу,
Разява-недарэча.
І сiганўў у вір ён,
як тарпеда.
Сядзелі мы без юшкі
ў час абеду...
Зланіў жа ён
малога акуня.
Забаўная рыбацкая
хлусня...
Калі ж хлусня ў
мастацкіх творах,
Тады яна —
найзлейшы вораг.

**Рыгор Яўсееў**



Без слоў.

# НАВУКА

З чаго смяюцца суседзі.




### ПРЫЧЫНА

Маня прыходзіць у суд з заявай аб разводзе.

— Якая ж прычына? — пытае суддзя.

— Муж прымушае мяне есці тое, што я вару яму!

### ДАРМА СВІШЧА...

Сядзіць дзядзька ў вакзальным рэстаране і пацягвае піва. Пачуўся свісток паравоза — сігнал да выхаду. Дзядзьку ж хоць бы што, спакойна папівае сабе па кішэні, прыгаварваючы:

— Свісці, свісці, білет адзін у мяне.

### ПА- НОВАМУ

У кінатэатры ў час сеансу адна прыяцелька другой:

— Пяты раз гляджу гэты фільм і скажу табе адкрыта: сёння акцёры іграюць як ніколі!

### КАЛІ ГАРЫЦЬ ПУЦЁЎКА

Каля прахадной санаторыя „Праца" стаяла група пажылых адпачываючых. Тут спыніўся аўтобус, з якога весела выскачыла румянашчокая маладка з хлапечаю зачоскаю...

Каля прыёмнага аддзялення таўпілася група старых...

— Ой, гаранька! — войкнула прыбылая. — Згарыць бясслаўна тут мая пуцёўка!

### НЕ ТУДЫ СТРАЛЯЎ

— Чаму ж ты, Кастусь, не страляў? — дакараў паляўнічыя. — Дзік проста на цябе ішоў.

— Страляў! Ей-Богу страляў!

— Чым, жаканам ці карцечу?

— Вачыма... То на галіну дуба, то на ствол ясеня.





Мяне лаюць — значыць, я існую.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На прыёме гутараць дзве дамы — сяброўкі.

— О! Які цудоўны жэмчуг, — сказала адна. — Мне так і хочацца ўкусіць яго, каб пераканацца, што ён сапраўдны.

— Ты можаш зрабіць гэта, дарагая, — адказала дама з жэмчужнымі каралямі. — Але хачу заўважыць, што зубы таксама павінны быць сапраўднымі...

*

Паліцэйскі схіліўся да дамы, што распасцерлася на асфальце ля тратуара, і спытаў:

— Мадам, вам дрэнна? Выклікаць „Хуткую дапамогу?"

— Не, не, дзякуй! Я сябе дасканала адчуваю. Проста я заняла месца, каб муж мог прыпаркаваць машыну...

*

— Чым карэнца двоежэнства?
— Дзвюма цёшчамі!

### ЯК ГАЛУБЫ...

— Адгрымелі вясельныя маршы
Толькі ўчора нібы.
Як жывуць маладзёначкі нашы?
— Ды, сват, як галубы.
— Што парадак у хаце,
Сцэн і звад — ні гу-гу?
— Сам, прызнаюся шчыра я,
сваце,
Зразумець не магу.
Бо гляджу і гадаю:
Згода ў іх ці вайна? —
Сёння —
Ён праз акно вылятае,
А назаўтра —
Яна.

**Мікола Чарняўскі**

З „Весніка Задрыпоніі"

### ДЛЯ ВАС, ГУРМАНЫ

Паступіла ў продаж пячэнне „Пустыннае". Дастаткова з'есці адно — і вы адчуеце пясок у зубах, а праз нейкі час — гарачыню.

### ПЫТАННЕ РУБАМ

Ці можна ўмацаваць здароўе па вырванай з боем курортнай пуцёўцы?



Пленер.



Без слоў.



Педант.



Не мог асцярожней... зноў прычоску сапсаваў!

# Курёзы

### КРАДЗЕЖ ПА-ІТАЛЬЯНСКУ

Два зладзеі ў Турыне былі застуканы паліцыяй якраз у той момант, калі яны адкручвалі колы ад аднаго аўтамабіля. Прыкмеціўшы карабінераў, зладзеі кінулі тыя колы, а самі кінуліся да свайго аўтамабіля. Але ўцячы ім не ўдалося, бо іншыя зладзеі, праявіўшы больш спрыт, укралі іхнюю аўтамашыну.

### ЗАСТАЕЦЦА Ў СІЛЕ

Шматлікія госці, якія былі запрошаны на вяселле міс Эні Гудзан (г. Калумбус, штат Агайо), атрымалі такую тэлеграму: „Калі ласка выкрэсліце на запрашэннях імя нарачонага Кліф Сілвер і ўпішыце: Генрых Хоўп. Месца і час шлюбнай цырымоніі застаецца ў сіле.

### НАДЗЕЙНЫЯ ПАМОЧНІКІ

Адна англійская газета надрукавала анкету на тэму: „Кнігі, якія мне дапамаглі".

Адказваючы на пытанні гэтай анкеты, адзін з чытачоў напісаў коратка: „Кулінарная кніга маёй маці і чэкавая кніжка майго бацькі".

# Між намі

Камень за пазухай — ядрэнны будаўнічы матэрыял для кар'еры.